# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**




№ 44 (714) 2 ЛІСТАПАДА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### НАСТАЎНІЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Бельскі аддзел Беларускага таварыства (яго ўзначальвае Мікола Гайдук) супольна з інспектарам асветы 17 кастрычніка арганізаваў канферэнцыю выкладчыкаў беларускай мовы ў пачатковых школах і кіраўнікоў гэтых школ. У канферэнцыі ўзяло ўдзел больш 80 асоб. На ёй было прачытана два даклады: першы на польскай мове падінспектарам асветы Сцяпанам Трахімюком: «Аб становішчы школьніцтва, дзе навучаецца беларуская мова». Дакладчык інфармаваў, што на Бельшчыне беларуская мова навучаецца ў 45 школах. Вучыцца яе 3458 дзяцей. Звярнуў ён увагу на матэрыяльныя ўмовы нацыянальнага школьніцтва, на ўзровень дыдактычна-выхаваўчай працы, на настаўніцкія кадры і т.д. Другі даклад: «Асаблівасці працы настаўніка ў злучаных класах з беларускай мовай навучання» падрыхтаваны быў кіраўніком школы з Дзянісак Уладзімірам Антанюком, які вельмі шырока і падрабязна гаварыў аб метадах працы настаўнікаў у такіх школах.

Удзельнікі канферэнцыі прааналізавалі ўсе справы звязаныя з беларускім школьніцтвам, а менавіта: заахвочванне да вывучэння беларускай мовы ўсіх вучняў школы, намаганне не дапусціць адмовіцца некаторых школьнікаў ад вывучэння роднай мовы, павелічэнне ў школах беларускіх кніжак, аўдыёвізуальных матэрыялаў, арганізаванне курсаў па беларускай мове і літаратуры для дарослых, аматарскага руху з беларускім рэпертуарам, патрэбу стварэння праграмы для тых, якія едуць папаўняць свае веды на месячны курс у Мінск і г.д. Некаторыя ўдзельнікі дыскусіі гаварылі аб тым, ці лепш пачынаць вывучанне беларускай мовы ад першага, ці ад другога класа. Ранг надалі канферэнцыі сваёю прысутнасцю: старшыня і сакратар нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП Збігнеў Дамброўскі і Станіслаў Зялінскі, сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП Раман Матосюк і старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. Ён падчас свайго выступлення гаварыў аб напрамках працы ГП у галіне асветы. Таварыш Дамброўскі забіраючы голас у дыскусіі высока ацаніў значэнне канферэнцыі і выказаў задавальненне з глыбокай і сур'ёзнай яе праблематыкі. Вёў канферэнцыю член праўлення аддзела старшыня Рэвізійнай камісіі ГП БГКТ, падінспектар асветы ў Бельску Язэп Альшэўскі.

### ГАДАВІНА ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

15-га кастрычніка Гайнаўскі аддзел БГКТ адзначаў 26 гадавіну Войска Польскага. У сувязі з гэтым на Гайнаўшчыну былі запрошаны намеснік Ваяводскага штаба да спраў палітычных палкоўнік Тадэвуш Чайкоўскі, прэзас Ваяводскага праўлення ЗБоВіД палкоўнік Ян Анацік і сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Узялі яны ўдзел у акадэміі ў беларускім ліцэі, а потым у памяшканні аддзела сустрэліся з актывам БГКТ. На акадэміі выступілі палкоўнікі з цікавымі прамовамі. Гасцям вучні ўручылі кветкі. Пасля адбылася мастацкая частка ў выкананні школьнікаў.

У тэты ж дзень вечарам адбылася акадэмія ў Старым Ляўкове, на якую апрача палкоўнікаў прыбылі сакратар КП ПАРП М. Самоцік, старшыня і сакратар ГП М. Хмялеўскі і Я. Зенюк, старшыня і інструктар Гайнаўскага аддзела А. Іванюк і В. Бура. Выступленне палкоўнікаў усіх вельмі цікавіла. Вёў акадэмію член праўлення гуртка БГКТ Янка Цялушэцкі. Пазней адбылося спатканне з мясцовымі настаўнікамі пры традыцыйнай чарцы віна. (мс)



Сквер у Боцьках.

За народную ўладу

## БОЦЬКАЎСКІ РЭДУТ

Ёсць на Бельшчыне невялікая асада Боцькі. Едучы ў Бельск або Сямяцічы ў цэнтры асады ў скверыку стаіць помнік. Ён незвычайную мае форму. Бо і пастаўлены ён незвычайным людзям, людзям, якія аддалі сваё жыццё за народную ўладу. Усе тады чакалі заканчэння вайны. Вайна закончылася з Германіяй, але не закончылася з радзімай рэакцыяй, якая ўсё рабіла, каб захапіць уладу ў свае рукі.

У Боцьках са зброяй у руках абаранялі маладую народную ўладу міліцыянеры. Былі гэта простыя, мясцовыя маладыя людзі, якія гераічна абаранялі ад бандаў тутэйшы раён, якія адбівалі напады ўзброеных банд на пастарунак міліцыі. Боцькаўскія міліцыянеры былі бескампраміснымі, бязлітаснымі да ворагаў. Яны не мелі спакойнага сну і адпачынку. Кожны амаль міліцыянер меў прыгавор смерці ад банды. І гінулі міліцыянеры. Першыя ахвяры былі ўжо ноччу з 5 на 6 студзеня 1945 года. Бандыты забілі тады Аляксандра Лукасюка і Віктара Зялінскага. 20-га лютага падчас чарговага нападу на пастарунак загінулі ў няроўнай барацьбе Аляксандр Пухальскі, Сцяпан Любавецкі, Юзік Ляшук і Антон Длужэўскі. Два дні пазней гіне Станіслаў Янкэ. Новым камендантам пастарунку назначаецца 22-гадовы Іван Антанюк з Гайнаўкі. Ён вырашыў жыць на пастарунку. 7 мая 1945 года чарговы напад на пастарунак. Міліцыянеры вядуць бой з аграмаднай бандай. Яна абстрэльвае будынак. Пасля падпальвае яго. Міліцыянеры вымушаны ратавацца ад агню. З першага паверху выскакваюць праз вокны. Выскаквае камендант, а за ім яго жонка, якая была цяжарная. Асталася ў жывых толькі яна, жонка каменданта, адзіны жывы сведак гэтай трагедыі. І зноў загінулі міліцыянеры, а пастарунак быў спалены. На пастарунак быў выбраны новы будынак. У рады міліцыі ўступілі новыя адважныя людзі. Аж 6 разоў нападала банда на пастарунак у Боцьках. Загінула там 27 міліцыянераў. У двух выпадках загінулі бацькі і сыны. Банда страшэнна здзекавалася над раненымі



Вянок ад БГКТ складаюць М. Хмялеўскі, Я. Зенюк і М. Гайдук.

Працяг на стар. 4




Ён, на жаль, неабходны кожнаму з нас, як яда, як паветра, як адзенне. Гэта важная праблема ў прыватным і грамадскім жыцці. Настолькі важная, што Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку прысвяціла ёй аддзельную сесію.

Варта было пасядзець на гэтай сесіі і паслухаць выступаючых радных.

Радны **Зентара** — намеснік старшыні Прэзідыума ВРН: 20 тысяч сем'яў у гарадах Беласточчыны не мае самастойных, аддзельных кватэр. У ваяводстве наглядаецца вышэйшае ад сярэднята ў краіне згушчэнне кватарантаў.

Радны **Благушэўскі** з Чорнай Беластоцкай, якая зараз з'яўляецца важным прамысловым пасёлкам. Беластоцкі павет на падрыхтоўчыя працы для жыллёвага будаўніцтва (водаправоды, каналізацыя, абагравальная сетка, электралінія) мае атрымаць ледзь 4,5 мільёнаў зл. Гэта смешна мала ў параўнанні з патрэбамі. Адна толькі Чорная Беластоцкая, каб забяспечыць правідловае развіццё жыллёвага будаўніцтва, патрабуе не менш 30 мільёнаў зл. Трэба ж вам ведаць, што чорна-беластоцкае металаапрацоўчае прадпрыемства ў наступнай пяцігодцы будзе даваць прадукцыю, вартасць якой перавышае 2 мільярды злотых. Нам патрэбны новыя жылыя гмахі, выгодныя, па-сучаснаму абсталяваныя кватэры, каб прыцягнуць вядомых спецыялістаў.

Радная **Крушынская** з Дубровы Беластоцкай: У нас у Дуброве планавалася пабудаваць 42 кватэры, пабудавалі толькі 30. Чаму? А затым неабходна для Дубровы пабудаваць ачышчальню гарадскіх і прамысловых сцёкаў. Усялякія бруды зараз плывуць з горада непасрэдна ў рэчку Крапіўную, а ад яе далей у Бебжу. Ужо ў Крапіўнай і ў ставах, якія знаходзяцца на яе шляху, плаваюць толькі атручаныя рыбы.

Радны **Пухальскі** з Саколкі: у Крынках, Сідры, Янаве, Карыціне, а нават у самой Саколцы вельмі слабыя, у большасці драўляныя будынкі. Яны ўжо развальваюцца. Нам трэба зараз не менш 700 кватэр, а згодна з планам на 1969/70 гады будзе ў нас пабудавана ўсяго ледзь 364 кватэры. І што тут рабіць, як іх дзяліць?

Радны **Хілецкі** з Гайнаўкі: Не, ён не выступаў. «Што гэта паможа, калі я выступлю, — сказаў ён мне. — З парожняга і Саламон не нальe. Так Прэзідыум ВРН дзеліць, як яго абдзялілі ў Варшаве».

— І вы не маеце ніякіх патрабаванняў? — пацікавіўся я.

— Іх у мяне цэлы мяшок, але перш за ўсё да будаўнікоў, асабліва да тых, якія ў Гайнаўцы будуюць спулдзельчыя жылыя гмахі. Выканалі яны свае планавыя заданні ледзь на палавіну. Мелі пабудаваць 238 кватэр, а пабудавалі ледзь 118. Не хапіла таксама 15 кватэр да плана ў будынках будаваных з бюджэту гарадской рады. Так што і ў нас у гэтай галіне раскошы няма.

Была гэта найбольш хіба драматычная сесія. У кожным выступленні, як прыпеў, паўтараліся словы: мала, мала.

Як яно з гэтым дахам над галавой ёсць сапраўды?

На Беласточчыне знаходзіцца зараз 35 гарадоў і адзін пасёлак (Просткі) гарадскога тыпу. Ад 1950 года насельніцтва ў гэтых гарадах амаль падвоілася. Узрасло яно дакладна на 99 працэнтаў. Зараз у гарадах Беластоцкага ваяводства жыве амаль 420 тысяч асоб. Пад канец 1968 года палавіна сярод іх жыла ў новых, пасляваенных кватэрах. Значыць, будавалася і будуецца ў нас шмат. Прэзідыум ВРН падае нават у сваёй справаздачы, што тэмп жыллёвага будаўніцтва выпярэджваў тэмп прыросту насельніцтва, што ў параўнанні да 1950 года колькасць кватэр у гарадах Беласточчыны павялічылася на звыш 106%.

Аднак усяго гэтага мала. Дык злосць бярэ чалавека, калі чуеш, што нават гэтыя скромныя грашовыя сродкі, якія ў нашым ваяводстве прызначаліся на жыллёвае будаўніцтва, будаўнікі не поўнасцю выкарыстоўваюць. Планавыя заданні ў гэтай галіне не былі выкананы аж у сямі паветах і ў горадзе Беластоку. Агулам у ваяводстве ў 1966—68 гадах не хапіла да плана 11.300 квадратных метраў жылой плошчы. Аба-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі

 СВЕТ

 БССР

 ПОЛЬШЧА

 ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### В. БРАНДТ КАНЦЛЕРАМ

Кааліцыйны ўрад у ФРГ стварылі сацыял-дэмакраты і вольныя дэмакраты. Старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі Вілі Брандт быў выбраны канцлерам новага ўрада.

Непасрэдна пасля выбараў Брандта канцлерам, выказаўся ён аб намерах новага ўрада. Гаворачы аб загранічнай палітыцы Брандт падкрэсліў, што яго урад з задавальненнем прыняў бы факт, калі б у магчымым да прадбачання часе можна было навязаць дыпламатычныя адносіны з Польшчай. Канцлер Брандт заявіў таксама, што ўрад СПД/ФДП пастараецца, каб у магчыма хуткім часе стварыць прадпасылкі для падпісання ФРГ дагавору аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі.

### РАЗМОВЫ Ў ПЕКІНЕ

У Пекіне распачаліся перагаворы між урадавымі дэлегацыямі Савецкага Саюза і Кітая. На чале абедзвюх дэлегацый стаяць выдатныя дыпламаты абедзвюх дзяржаў. Савецкую дэлегацыю ўзначальвае I намеснік міністра замежных спраў СССР Васіль Кузняцоў, вядомы дыпламат, які нядаўна быў разам з Касыгіным у Пекіне. Кітайскую дэлегацыю ўзначальвае таксама віцэ-міністр замежных спраў, які з'яўляецца адным з бліжэйшых супрацоўнікаў кітайскага прэм'ера Чжоў Энь-лая.

Распачаўшыеся перагаворы здзівілі заходніх назіральнікаў. Здзівілі таму, што наступілі пасля трагічных выпадкаў на савецка-кітайскай граніцы, а нават пасля таго, як некаторыя кітайскія афіцыяльныя асабістасці высоўвалі тэрытарыяльныя прэтэнзіі.

Перагаворы, якія зараз вядуцца ў Пекіне, былі ўзгоднены ў часе сустрэчы Касыгіна, які, вяртаючыся з ДРВ 11 верасня г.г., затрымаўся ў Пекіне і правёў размовы з Чжоў Энь-лаем. Сёння ўжо вядома, што абодва кіраўнікі ўрадаў разглядалі справу прадухілення гранічных канфліктаў, павелічэння гандлёвага абмену і павароту на свае пасты паслоў (дагэтуль пасольствамі кіравалі шаржэ дафэр — найніжэйшая ступень дыпламатычнага прадстаўніка). Вышэй указаныя праблемы, можна дадумвацца, з'яўляюцца тэмай перагавораў у Пекіне.

### ВЫКАРЫСТАННЕ ПЕНСІЯНЕРАЎ

У некаторых, асабліва прамысловых, раёнах Савецкага Саюза адчуваецца недахоп рабочай сілы. У сувязі з гэтым Савет Міністраў СССР прыняў у апошнім часе пастанову ў справе прыймання на працу, у некаторых галінах гаспадаркі, пенсіянераў і хатніх гаспадынь.

### НАЙВЯЛІКШЫЯ ГАРАДЫ СССР

Зараз у Савецкім Саюзе налічваецца 10 гарадоў, у якіх колькасць насельніцтва перавысіла мільён жыхароў. Найнавейшым «мільянерам» з'яўляецца вялікі сібірскі горад Свярдлоўск.

1 студзеня 1969 года ў Маскве пражывала 6.642 тыс. асоб, у Ленінградзе — другім па велічыні горадзе СССР — было 3.978 тыс. жыхароў, а трэцім Кіеў — 1,5 мільёна асоб. А. К.

## БССР

### КАЛЯРОВАЙ

У Мінску адбылася нарада членаў часовай рабочай групы па тэхніцы каляровай тэлевізіі пастаяннай камісіі радыёэлектронікі краін эканамічнай узаемадапамогі. У яе рабоце прымалі ўдзел спецыялісты Балгарыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы, Румыніі, Савецкага Саюза, Чэхаславакіі і Югаславіі.

Былі разгледжаны абагульненыя матэрыялы, праекты прапаноў і рэкамендацый па вырашэнню асноўных пытанняў супрацоўніцтва краін Савета эканамічнай узаемадапамогі ў галіне вытворчасці тэхнікі каляровай тэлевізіі на 1971—75 гады.

Распрацавана пералік вырабаў, па якіх ужо ў 1970 годзе мэтазгодна пачаць работы па спецыялізацыі і кааперавання вытворчасці. Прынята план уніфікацыі і стандарызацыі.

### ЧЭХАСЛАВАЦКІХ

Выстаўка чэхаславацкіх арганічных фарбавальнікаў і тэкстыльна-дапаможных рэчываў адкрылася ў Мінску. Экспазіцыя вырабаў чэхаславацкага акцыянернага знешнегандлёвага таварыства «Хемапол» прыцягнула ўвагу спецыялістаў тэкстыльнай прамысловасці.

### МІЖВЕДАМАСНАЯ

Міжведамасная нарада па меліярацыйнай гідрагеалогіі і інжынернай геалогіі адбылася ў Акадэміі навук Беларускай ССР. Арганізатарамі нарады з'яўляюцца: Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі Саюза ССР і Міністэрства геалогіі Саюза ССР.

У нарадзе прынялі ўдзел: сакратар ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок, Старшыня Дзяржаўнага плана Беларускай ССР П. Коханаў, міністр сельскай гаспадаркі Беларускай ССР С. Скарапанаў.

### ПЛАКАТА

У Мінскім Доме архітэктара наладжана выстаўку польскага плаката, якая з'яўляецца своеасаблівай калекцыяй беларускага архітэктара Анатоля Занеўскага. Ён больш чым паўтара года правёў у Польшчы.

### МАГІЛЁЎСКАГА

Адбыўся пленум Абласнога камітэта КП Беларусі ў Магілёве. Абмеркавана пытанне «Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-палітычнай інфармацыі». Дакладчык — сакратар абкома партыі Л. Барабанава і выступіўшыя ў спрэчках адзначылі, што перад працоўнымі Прыдняпроўя цяпер рэгулярна выступае каля сямі тысяч палітычных інфарматараў. Яны знаёмяць рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыю з актуальнымі пытаннямі камуністычнага будаўніцтва і міжнароднага становішча, з навінкамі навукі і тэхнікі, поспехамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Удзельнікі пленума вялікую ўвагу ўдзялілі нявырашаным пытанням. У шэрагу месц недаацэньваецца роля агітатараў, слаба вядзецца антырэлігійная прапаганда. Асобныя партыйныя камітэты, неаб'ектыўна інфармуюць вышэйстаячыя партыйныя органы. (ся)

## ПОЛЬШЧА

### БАНКІ

Рада Міністраў прыняла пастанову аб рэформе сістэмы банкаў. Згодна з пастановай ад 1 студзеня 1970 года адбудзецца спалучэнне Нацыянальнага польскага банка і Інвестыцыйнага банка. Змены гэтыя вынікаюць з рэалізацыі пастаноў II Пленума партыі і спрыяць будуць прыстасаванню фінансава-крэдытнай структуры да змен у арганізацыі планавання і кіравання. Згодна з рэформай пашырыцца круг дзейнасці Паўсюднай касы ашчаднасці (ПКО), якая будзе не толькі накопліваць ашчаднасці, але адначасова даваць пазыкі гарадскому насельніцтву на індывідуальнае будаўніцтва памяшканняў, рамонты памяшканняў і пакупку тавараў на раты.

### ПОЛЬШЧА — В'ЕТНАМ

25 кастрычніка закончылася ў Варшаве размова паміж урадавай гаспадарчай дэлегацыяй Польшчы і гаспадарчай дэлегацыяй Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама. У выніку размоў падпісана пратакол і дагавор паміж Польшчай і Дэмакратычнай Рэспублікай В'етнама аб гаспадарчым і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, а таксама паклікана польска-в'етнамскую камісію гаспадарчага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Умовы акрэслівае вартасць таварнага абмену паміж Польшчай і В'етнамам на 1970 год.

### ВУГАЛЬ

Пачынаючы ад 1945 года да верасня гэтага года Польшча выэкспартавала 500 мільёнаў тон каменнага вугалю, што дало даход каля 6 мільярдаў долараў. Польшча з'яўляецца адзінай еўрапейскай краінай, якая пастаянна павольшвае экспарт вугалю .Найбольшымі экспарцёрамі з'яўляюцца шахты «Бытам» і «Забжэ».

### ПАПУЛЯРНАСЦЬ

Як вынікае з сацыялагічнай анкеты, найбольшай папулярнасцю сярод вясковых гледачоў цешыцца тэлевізійны дзённік. Затым ідуць такія тэлевізійныя перадачы як: серыйныя сенсацыйныя фільмы і «Кобра», фабулярныя фільмы, спартыўныя перадачы, тэатр тэлевізіі, паказы моды, сельскагаспадарчыя курсы, фільмовая хроніка.

### САМАЛЁТ

Самалёт Польскіх паветраных ліній (ЛЁТ), які ляцеў з Варшавы ў Брусель, прымушаны быў прызямліцца ў Заходнім Берліне. Падчас пералёту над ГДР двух узброеных людзей уварвалася ў кабіну пілотаў і прымусіла самалёт прызямліцца ў французскім сектары заходняга Берліна. Злачынцы мелі пашпарты ГДР. Былі яны затрыманы французскімі ўладамі. Пасля кароткага перапынку самалёт паляцеў у далейшую дарогу. У сувязі з выпадкам міністэрства замежных спраў ПНР рашуча запатрабавала ад французскіх улад неадкладнага перадазу двух затрыманых злачынцаў польскім уладам.

### ПРАФ. КАСТШЭЎСКІ

У Познані памёр сусветнай славы вучоны нестар польскай археалогіі, адзін з заснавальнікаў Познаньскага ўніверсітэта — праф. др Юзэф Кастшэўскі. Векапомным адкрыццём праф Кастшэўскага быў Біскупін. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ЗМВ

На Беласточчыне дзейнічае зараз 2.300 гурткоў Саюза вясковай моладзі — ЗМВ. Аб'ядноўваюць яны 52 тысячы членаў гэтай арганізацыі. ЗМВ з'яўляецца найбольш масавай арганізацыяй у Беластоцкім ваяводстве.

### РАЙКІН

З нагоды Дзён рускай культуры на гастролях у Беластоку пабываў выдатны савецкі акцёр — заслужаны артыст СССР Аркадзій Райкін разам з ансамблем Дзяржаўнага ленінградскага тэатра мініяцюр. Яго выступленні былі наладжаны ў тэатры імя Вянгеркі 27 і 28 кастрычніка г.г.

### БТК

Беластоцкае таварыства культуры дзейнічае ўжо чацвёрты год. Зараз аб'ядноўвае яно шэсць рэгіянальных таварыстваў культуры, якія дзейнічаюць у паасобных паветах. Дзейнасць БТК станоўча ацанілі члены камісіі для спраў культуры і мастацтва, якая дзейнічае пры Прэзідыуме ВРН у Беластоку. Пры нагодзе напамінаем, што БТК выдае свой орган — літаратурна-грамадскі месячнік «Кантрасты».

### СОП

СОП — гэта ашчадна-пазыкавая спулдзельня, якая дзейнічае ў вясковым асяроддзі. Пасля 12-гадовай дзейнасці СОП заваяваў сабе вялікую папулярнасць. Зараз на ашчадна-пазыкавых кніжках сялян Беластоцкага ваяводства накапілася звыш 650 мільёнаў зл. Свае ашчаднасці перадае ў касы СОП 187 тысяч сялян. Ашчадна-пазыкавыя спулдзельні адпісалі сялянам 20 мільёнаў злотых з нагоды апрацэнтавання ашчадных кніжак.

### СУСТРЭЧА

Член Рады Дзяржавы і пасол Беласточчыны ў Сейм Яўгенія Красоўская сустрэлася нядаўна з працаўнікамі і студэнтамі Вышэйшай інжынерскай школы і філіялу Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. Я. Красоўская адзначыла выдатную ролю навуковага асяроддзя Беластока ў падрыхтоўцы кадраў з вышэйшай адукацыяй.

### НЯШЧАСЦЕ

У аўторак зранку, 21 кастрычніка г.г., недалёка вёскі Волька Выганоўская ў Гайнаўскім павеце здарылася вялікае няшчасце: на чыгуначным пераездзе трапіў пад цягнік грузавік з надлясніцтва ў Бельску. Ехала ім 13 чалавек — жыхароў Волькі Выганоўскай і Лубіна Касцельнага — да працы ў лясніцтве Чаромха. На месцы было забітых 9 чалавек.

### АХВЯРНАСЦЬ

Грамадзяне Беластоцкага ваяводства на працягу мінулых трох кварталаў гэтага года склалі на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў 25 мільёнаў 500 тысяч злотых. Найбольш ахвярнымі ў гэтай галіне аказаліся жыхары паветаў: Граеўскага, Алецкага, Элцкага і Ломжынскага. Вельмі адстаюць паветы: Дуброўскі, Сакольскі і Бельскі. (вр)




**Niedziela, 2.XI.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Mieszanki paszowe w żywieniu zwierząt". 9.40 ,,Przypominamy, radzimy". 10.00 Dla młodych widzów: ,,Bertramka" (Praha). 10.45 ,,Ostatnia wyprawa Scotta" — film dok. ang. 11.45 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad — lata 1949—53". 12.15 Dziennik. 12.30 ,,Jak powstaje muzyka w filmie" (,,W starym kinie"). 13.30 ,,Kamienne posągi nad Newą" (Leningrad). 14.00 ,,Przemiany". 14.30 ,,Cecylia — lekarka wiejska" — film odc. I. 14.55 ,,Śladami filmowej przygody" — film. 15.30 ,,Tam, gdzie tańczą Lawonichę" — rep. film. 16.00 ,,Spotkanie z pisarzem" — Tadeusz Nowak. 16.30 ,,Bonanza" — film. 17.20 ,,Nad Odrą" — rep. 17.55 PKF. 18.05 ,,Stanisław Wyspiański — życie i twórczość" teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Klucz" — film fab. ang. 22.05 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 3.XI.**

14.25 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec". 17.40 ,,Echo stadionu". 17.55 ,,Stefan Batory" — film dok. pol. 18.10 ,,Sylwetki X Muzy" — Mieczysław Voit. 18.35 ,,Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Komisarz Turkiestanu" — film dok. 20.20 Teatr TV: M. Gorki — ,,Mieszczanie". 22.00 ,,Życie w metalu" — rep. 22.30 Dziennik.

**Wtorek, 4.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Mickiewicz ,,Dziady". 9.50 ,,Pożar Reichstagu" — film dok. bułg. 10.55 Przerwa. 12.00 ,,Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.40 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Unowocześnienie pomieszczeń dla zwierząt gospodarskich". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 ,,Dwa końce smyczy" — film dok. węg. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 ,,Rondo" — rep. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Pożar Reichstagu" — film dok. bułg. 21.10 ,,Klucz do M-3". 21.40 ,,Trzy spotkania" — film fab. węg. 22.35 Dziennik.

**Środa, 5.XI.**

8.20 ,,Opowieść sentymentalna" — film fab. rum. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — ,,W Księstwie Warszawskim". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — ,,O ruchach". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — ,,Kierunek nowoczesność" cz. I. 13.15 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 ,,Lenin w Polsce" (,,Śladami Lenina") (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.10 Magazyn ITP. 17.20 Dla dzieci: ,,Pan Półka i spółka". 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 ,,W Surgucie też żyją ludzie" — film dok. 18.35 PKF 18.45 Wszechnica TV. ,,Opowieść z Kosmosu". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 ,,Klub miłośników pieśni" (Moskwa). 21.15 ,,Światowid". 21.45 Studio Współczesne: M. Domański — ,,Decyzja". 22.35 Dziennik.

**Czwartek, 6.XI.**

8.15 ,,Matematyka w szkole": ,,Pole koła i jego części". 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — ,,Pierwsze lata II Rzeczypospolitej". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół. (kl. VII i VIII) Język polski — ,,Radio". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: ,,Budowa i działanie silnika wysokoprężnego". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem". 17.50 ,,Sonderaktion Krakau". 18.10 ,,Nad Odrą i Bałtykiem". 18.40 ,,Twórcy muzyki współczesnej" — Dymitr Szostakowicz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora ZSRR. 20.20 ,,Niebo należy do dziewcząt" — film radz. 20.40 ,,Kurier z Warny" — film fab. radz.-bułg. 22.05 Dziennik.

**Piątek, 7.XI.**

8.00 Defilada wojskowa i manifestacja z okazji 52-ej rocznicy Wielkiej Socjalistycznej Rewolucji Październikowej (Moskwa). Po transmisji: ,,Kurier z Warny" — film fab. radz.-bułg. 12.45 Dla szkół: (kl. II—III lic.) Przysposobienie obronne — ,,Wybrane zagadnienia wojny psychologicznej". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.25 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 TV Kurier Mazowiecki. 17.00 ,,Świąteczny ognik" — program rozrywkowy (Moskwa). 18.30 ,,Muzeum Lenina" — rep. 19.00 ,,Lektury współczesne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Wszechnica TV: ,Telewizyjny Atlas Świata — Jakucja". 20.30 Estrada Literacka: ,,Rok siedemnasty". 21.10 ,,Przepraszamy za usterki". 21.30 ,,Czwarty tata" nowela filmowa radz. 22.05 Dziennik.

**Sobota, 8.XI.**

8.25 ,,Byłam głupią dziewczyną" — film fab. węg. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — ,,Z wizytą w Nowym Jorku". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia ,,Jak powstaje mapa". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku: — ,,Przewód pokarmowy". 13.15 Przerwa. 14.10 Program dnia. 14.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Siano i kiszonki w żywieniu zwierząt". 14.50 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 15.00 Program tygodnia. 15.20 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Teatr Młodego Widza: K. Siesicka — Zapałka na zakręcie". 18.05 ,,Spotkania z przyrodą". 18.30 ,,Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 ,,Piosenki radzieckie" — program rozrywkowy. 21.20 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.45 ,,Byłam głupią dziewczyną" — film fab. węg. 23.20 ,,Wiedeńska operetka" — film bułg.




**Piątek, 31 października**

14.55 Program dnia. 15.00 ,,Nowiny". 15.15 Dla uczniów. 15.45 ,,Zrób sam". 16.15 Dla uczniów. 16.45 ,,Rękopisy Lenina". 17.25 ,,Panorama nowin". 17.35 ,,Nasz ośrodek prasowy". 18.10 ,,Iwan Kozłowski". 18.30 ,,Sztafeta nowin". 19.15 Artysta ludowy RSFSR Jurij Nikulin. 20.30 ,,Czarne ptaki". Film fab. 22.00 ,,Nowiny".

**Sobota, 1 listopada**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Klub TV. 9.30 ,,Imienia Lenina". 10.10 ,,Szkatułka muzyczna". 10.30 Uniwersytet TV. 11.00 Fakultet nauki i techniki. 11.45 Fakultet kultury. 12.30 TV teatr dla dzieci. 13.30 Reportaż. 14.00 W eterze ,,Młodość". 14.30 Przegląd międzynarodowy. 15.00 Nowiny. 15.15 Reportaż z muzeum Lenina. 16.00 TV barwna. 17.00 Program sportowy. 19.30 ,,Wiedza z obrony obywatelskiej". 19.40 ,,Bohater naszych czasów". Film fab. I seria. ,,Beła". 21.20 Reportaż film. 21.40 ,,Nowiny".

**Niedziela, 2 listopada**

8.00 ,,Kiosk muzyczny". 8.30 ,,Poeta i obywatel". 9.00 Dla młodzieży. 10.00 Dla uczniów. 10.45 TV barwna. 12.25 Dla uczniów. 13.30 ,,Nowiny". 13.40 ,,Skarby Leningradu". 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 ,,Godzina wiejska". 15.30 TV barwna. 17.30 O eksperymentalnej bazie ,,Tuława". 18.15 Kompozytor Swirydow. 18.50 ,,NAP w budownictwie". 19.15 ,,Siedem dni". 20.00 Bohater naszych czasów". Film fab. II seria.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 131




## Яшчэ аб „Загонах”

«Загоны» — кніжны дэбют Сакрата Яновіча — цікавая і арыгінальная проза. Апавяданні, змешчаныя ў зборніку — гэта пераважна лірычныя замалёўкі суб'ектыўнага характару. Але гэты суб'ектывізм апавяданняў Яновіча не кідаецца ў вочы, паколькі аўтарскія назіранні пакрываюцца з нашымі ўласнымі і чытач гэта выразна адчувае. Заслуга мастака якраз у тым, што ён не навязвае нам сваіх думак, а толькі далікатна іх падсоўвае, нібы гэта нашы ўласныя і ўсё тое, што мы думаем і адчуваем, а аўтар толькі мастацка аформіў.

Найбольшае хіба ўражанне пакідаюць кароценькія апавяданні-мініяцюры, якія стаяць на мяжы між прозаю і паэзіяй. У большасці гэтых апавяданняў кожнае слова выважанае і мае сваё, адно толькі месца ў творы і толькі ў гэтым месцы яно мае свой сэнс. У гэтых кароценькіх апавяданнях Яновіч праявіў сябе, як мастак, які не змарнаваў ніводнага слова, а кожны замах рукі прыдае твору нейкае новае значэнне. Але і ў большых празаічных формах мастак не губляецца. Маю на ўвазе навелы «Таня» і «Ён і іншыя», якія ў пэўным сэнсе з'яўляюцца працягам першай часткі зборніка. Асабліва апошняе, дзе кожнае сутыкненне галоўнага героя з «іншымі» мае свой самастойны і глыбокі сэнс.

Апавяданне «Экскурсія» неяк мастацка не аформлена. У адрозненні ад іншых не хапае яму філасофскай глыбіні, а сам змест не прадстаўляецца цікава, застаецца ўражанне, што аўтар яго не закончыў.

Прыгожае апавяданне «Скарбы ў Яцвяжскай пушчы» напісана вельмі цікава і займаюча, але яно стаіць асабняком і трэба было змясціць гэта апавяданне ў іншай частцы зборніка.

«Пісьмы з вёскі» сведчаць аб тым, што аўтар добра вывучыў псіхіку селяніна і добра разбіраецца ў вясковай праблематыцы, але іх мастацкі ўзровень адбятае ад узроўня апавяданняў, тым больш, што праблематыка, якую ў іх закранае аўтар, паўтараецца.

Апавяданні змешчаныя ў «Дзядзькавым сонніку» напісаны вельмі цікава і многа ў іх добрага гумару і сатыры. Прыкметна выдзяляюцца «Спосабы на зладзеяў», «Удача» і «Як я стаў лысым».

Нягледзячы на гумар некаторых апавяданняў, пасля прачытання «Загонаў» на душы застаецца смутак. Успамінаюцца словы Ясеніна:

Грубым даётся радость,
Нежным даётся печаль...

Да першых належаць паасобныя героі апавяданняў, якія бескрытычна падыходзяць да жыцця і цешацца пустой уцехай. Аўтар належыць да гэтых другіх, якія са смуткам глядзяць, што на хвалі бурлівага жыцця, у штодзённых змаганнях з ім, людзі не заўважаюць, як вымірае годная культывавання традыцыя, як на загоны разам з дабром ціснецца дрэнь. Гэты працэс хіба непазбежны, але можна яго паважна агранічыць і гэта ляжыць у супольным інтарэсе нас усіх.

**Станіслаў Пазнанскі**

## Родная мова

**Мая родная мова —**
**Гэта казкі і песні,**
**Гэта шчырае слова**
**І цяпло на прадвесні.**

**У ёй глыбокая мудрасць,**
**Палымяннасць гучання,**
**Захавана ў ёй сутнасць**
**Нашых светлых жаданняў.**

**М. Мельнік**

## Мора

Мора вечна жыве,
Хоць праходзяць гады.
Яно кліча, заве
Да зялёнай вады.

А калі падбяжыш,
З пяску робіць парог.
То зноў хутка — глядзіш —
Падбягае да ног.

Сваёй хваляй — рукой
Абнімае цябе.
— Прытуліся шчакой, —
Ціха шэпча табе.

А як вецер — свістун
Праляціць па вадзе,
Як яно зашуміць,
Як яно загудзе.

Тады з пенай плывуць
Хвалі цёмнай вады.
Як жа страшна гудуць,
Як жа выюць тады.

Забіраюць пясок,
І каменні, і жвір.
То адкінуць убок,
То закруцяць у вір.

Падбягаюць, бягуць
Усё хутчэй і хутчэй.
Аж не можна ад іх
Адарваці вачэй.

**Л. Танкевіч**



## Цені

**Цені**
**як ад'ютанты**
**стаяць на магілках**
**жалобныя**
**слёзы льюць...**

**смерць**
**забрала**
**іх генералаў —**
**цень**
**раздзяліла**
**з постацяй**

**ці ж толькі**
**жалобаю ценя**
**слёзамі маці**
**прадаўжае жыццё**
**адыйшоўшае існаванне?**

**Яша Бурш**



* ✲ *

Шчасце
птушкай залётнай
заўсёды
кружыць блізка.
Дражніцца —
узляціць,
зніжыцца,
пакратае...
Мала хто
патрапіць
яго злавіць.
Некаторыя
ловяць толькі
прывід,
каб пераканацца,
што ў руках
няма нічога.

**Алесь Свісёк**

## Слова

Ёсць вясною пара, калі салавей,
Вырай прабыўшы, сядзе на куст каліны.
Горкай ягады сок, як настой жыцця, п'е,
Каб дарыць водар песні каханай краіне.

Сёння восень прыйшла на памінкі вясны,
Жураўліная песня падняла развітанне,
Млечны Шлях падабраў жывых зорак ключы,
Чую песню тугі, горку песню кахання.

Тым лістком пажаўцелым упаду ізноў
На дарогу, каб ногі стапталі з зямлёю.
А калі дакранецца жывая далонь,
Хай яна будзе толькі адным словам: Табою.

**Уладзімір Гайдук**

## Мядовая грэчка

**Зямля абрастала грэчкай мядовай.**
**Дарогай па схілу гары.**
**З касою ішлі салдацкія ўдовы**
**Атаву збіраць, аб вайне гаварыць.**

**Унізе ляжала цёплая рэчка.**
**Тут ракі жылі і рыба была,**
**Тут ён быў, касіў... І толькі ўдава**
**Ведае горыч мядовай грэчкі.**

**Усё валачэцца: луг пераходзіць у рэчку,**
**Жыццё у смерць, жанчыны ва ўдовы,**
**Сонца з пяском у грэчку мядову,**
**І толькі магчымасць дзявочая —**
**у недарэчнасць.**

**І. Чыквін**



## На возеры Памора

**Шуміць і возера, і бор,**
**У чароце прытаіўся вечар.**
**А мне здаецца, што наўкол**
**Яцвягі клічуць нас на веча.**

**Продкі, з крывёю на сцягу!**
**Як мне далёкі вашы справы.**
**Бо зразумець я не магу**
**Над племем дзікую расправу.**

**Сядзець бы вам каля кастроў,**
**Не ведаць розні, ані сваркі,**
**Шукаць для тостаў трапных слоў**
**І піць за дружбу поўнай чаркай.**

**Зямля ад тупату дрыжыць**
**Дзяцей ватагі гаманлівай.**
**У ім пачуў я гул дружын,**
**Што з конскаю зрасліся грывай.**

**Юрка Зубрыцкі**



* ✲ *

Чаканне — гэта жыццё,
чакаем ночы, каб марыць,
чакаем першы подых ранка,
вобраз запомніць кахання.
Не чакаем мінулага,
яно — бледная абшарпаная карціна,
у адзіноце вобраз яе ажывае,
паказвае маласць нас.

* ✲ *



Дзе сапраўдны спакой?
Дзе знайсці частку цішыні?
Парваць правады —
глухі шум, завузіцца свет.
Забіцца ў глухі лес —
існуе такі?
Падняцца на крыллях ветру.
Самалёты, спадарожнікі, ракеты
На — Месяц!
Ха-ха-ха.
Сэрца ўбачыць усход Зямлі.
Спакой,
ноч з вачыма зор,
начная перадача радыё,
шэпт лісця — мары.

**Вераніка Леанюк**

## У Аляўкоўшчыне

Паехалі мы цэлаю шайкаю. Чаго мы толькі не вычаўпалі фураю едучы! За могілкамі кабыла панясла: добра, што воз шырокі і не вывярнуўся.

А як Генё прыняў нас у сябе! Усіх пасадзіў на лавах за сталом: прынёс міску мёду, круг хлеба, сухой каўбасы і казаў есці. Напачатак паставіў бутэльку гарэлкі.

— Перш наямося, а потым пагаворым, — сказаў да нас.

Усе елі і пілі, елі і пілі. Нічога не бракавала. Вітоль толькі бутэлькі прыносіў і выносіў.

Потым усе пайшлі ў садок пабачыць вулеі, яблыні і яблыкі. Возьмеш такое яблыка ў рот — расплываецца.

А ў рэчцы, за гумном, шчупакі.

Генё выцягнуў шчупака, які меў дзесяць кілаграмаў. Гэта быў шчупак!

На другі год зноў паедзем у Аляўкоўшчыну.

**Эдвард Ярашэвіч**



 

Пачатак на стар. 1

# Боцькаўскі рэдут



**Дырэктар дэпартамента Міністэрства унутраных спраў — Зыгмунт Арлоўскі і сакратар КЗ ПАРП у Міністэрстве Веслаў Тамаля.**

мі міліцыянерамі, забівала іх кіямі і вешала іх на калючым дроце на вуліцы.

Мясцовыя жыхары былі тэрарызаваны бандамі. 11-гадовага хлопца яны забілі, які сказаў міліцыянерам, у якім напрамку пайшла банда.

Некалькі год таму назад з грамадскіх складчын Бельскага насельніцтва і дзякуючы грамадскаму чыну мясцовых людзей быў пабудаваны ў Боцьках Дом міліцыянера, у якім зараз знаходзіцца пастарунак, а таксама адзін пакой адведзены на свайго роду музей аб загінуўшых героях міліцыянерах. У гадавіну народнай улады, у гадавіну міліцыі жыхары Бельшчыны, партыйныя і грамадскія арганізацыі, прадстаўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў складаюць вянкі, ушаноўваюць памяць аб загінуўшых героях міліцыянерах.

11 кастрычніка г.г. у Боцькі прыехалі працаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў на чале з дырэктарам дэпартамента Зыгмунтам Арлоўскім, яго намеснікам Тадэвушам Квяткоўскім і сакратаром КЗ ПАРП Веславам Тамаляй. Прыехалі яны злажыць вянкі і ўшанаваць памяць загінуўшых міліцыянераў. Працаўнікоў МСВ павіталі ў Боцьках старшыня Павятовай рады нарадовай у Бельску Леан Пэрак, сакратар КЗ ПОП ваяводскай міліцыі маёр Юзэф Джэміцкі, прадстаўнікі аддзела ўнутраных спраў прэзідыум ВРН на чале з кіраўніком Антонам Рошкам, — камендант павятовай міліцыі ў Бельску маёр Чэслаў Табар, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў прэзідыум ПРН у Бельску Іван Хіліманюк, члены прэзідыума ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі, Янка Зенюк і Мікола Гайдук, а таксама старшыня ГРН і сакратар КГ у Боцьках. Працаўнікі МСВ, УСВ і прадстаўнікі БГКТ паклалі вянкі ля помніка. Аб гісторыі змаганняў боцькаўскіх міліцыянераў, расказаў маёр Чэслаў Табар. Пасля ўсе наведалі Дом міліцыянера, у якім знаходзіцца пакойчык-музей.

**М. Хмялеўскі**

**фота Цаф — Сянько**



**У пакойчыку — музеі загінуўшых міліцыянераў.**



**Дом міліцыянера.**



**Маёр Чэслаў Табар расказвае прысутным аб гераічных міліцыянерах.**



**Дэлегацыя набліжаецца да скверыка, у якім стаіць помнік.**

Пачатак на стар. 1

# Дах над галавой

значае гэта, што для нейкіх 300 4-рохасабовых сем'яў не хапіла кватэр.

Будаўнікі і іншыя асобы, адказныя за жыллёвае будаўніцтва, прыводзяць у сваё апраўданне доўгі спісак так званых «аб'ектыўных» прычын. Усіх іх можна падвесці ў адзін сказ: нядбайная арганізацыя працы. Надзею на паляпшэнне гэтага стану дае рашучая і прынцыповая супольная інтэрвенцыя сакратарыяту Ваяводскага камітэта партыі і Прэзідыума ВРН. Між іншым і таму адбылася гэтая сесія ВРН.

**В. Рудчык**

# Лісты

**Добры дзень, дарагая рэдакцыя!**

Пішуць Вам краезнаўцы Высакоўскай школы-інтэрната. Мы просім дапамагчы нам у пошуках Кавуна Фёдара Дзем'яновіча. Ад моманту пачатку Вялікай Айчыннай вайны ніякіх звестак аб ім няма. Бацькі паведамілі, што ён быў у пагранічных войсках, размешчаных у Вярховіц.

Мы звярталіся да шматлікіх архіваў і музеяў СССР, але ніякіх звестак аб ім няма. Можа ён загінуў на тэрыторыі, якая цяпер належыць Польшчы.

Можа хто-небудзь з жыхароў вашай вобласці што-небудзь ведае аб гэтым воіне.

Старшыня гісторыка - краязнаўчага гуртка Манец.

Дырэктар Высакоўскай школы-інтэрната — В. Калатухін.

# Сляды гісторыі пад ахову!

Мішчук, сусед Афанаса Кавалевіча, што на хутары Літвінавічы, выараў на сваім полі дзіўныя чэрапы дзіўных гаршкоў. Наўрад, ці хто звязаў тэта з «Грудам», не менш дзіўным месцам, абваколеным падвойным кальцом равоў зарослых, але яшчэ месцамі даволі глыбокіх. Той «Груд», як мы даведаліся ў беластоцкіх вучоных, гэта сляды старабеларускага гарадзішча, існаваўшага прыблізна тысячу год таму назад. Падобнае гарадзішча, каля той жа рэчкі Пульва, знаходзіцца ў ваколіцы Янцэвічаў. На Мішчуковым полі, магчыма, старажытны могільнік, целапальны. Гэта ў Сямяціцкім павеце.

На Сакольшчыне жа, каля вёскі Гаркавічы за рачулкаю ў алешыне высіцца гара, званая Замкавай, каралевы Боны і г.д. Побач вёскі Кнышэвічы, што ў паўночна-заходнім напрамку ад Гаркавічаў, таксама гара — з вялікімі каменнямі. І гэта гара мае легендарныя мясцовыя назвы. Рэдакцыя «Нівы» зацікавіла гэтымі мясцінамі вучоных-археолагаў, якія нічога не ведалі аб іх. Вучоныя, агледзеўшы гэтыя месцы, сцвердзілі, што маюць яны вялікую цікавасць для навукі — і выступяць да ўлад з патрабаваннем забяспечыць іх перад знішчэннем з боку несвядомых людзей. Пачнуцца тут раскопкі, якія мабыць высветляць некаторыя загадкі даўняй гісторыі нашай зямлі.

Нейкі даўні, мабыць, дахрысціянскі могільнік існуе ў ваколіцы вёскі Паўднёвы Востраў. Вучням астраўлянскай школы, зацікаўленым гісторыяй сваёй ваколіцы, выпала дасканалая аказія апісаць яго размяшчэнне і выгляд. Вучоныя будуць за гэта ўдзячны, і хто ведае, ці не пацікавяцца гэтаксама, як гаркавіцкімі — кнышэвіцкімі мясцінамі. У недалёкай будучыні плануецца арганізацыя навуковых экспедыцый на Сакольшчыну.

(ся)

З нашай мінуўшчыны

# Антыфеадальныя хваляванні сялян на ўсходнім Падляшшы (1)

Пераглядаючы шматлікія пісьмовыя крыніцы, даволі часта сустракаюцца мала вядомыя весткі аб хваляваннях прыгонных сялян супраць розных форм феадальнага прыгнёту і бяздушнасці падляшскіх літоўска-беларускіх магнатаў і ўраднікаў. З нейкім упрошчаннем можна сказаць, што пачынаючы ад XIII—XIV ст.ст. да 1861 года (адмена прыгону) бачыцца сістэматычнае ўзмацненне эксплуатацыі сялян, а разам з гэтым — узрост ліку пратэстаў.

У часы панавання Вітаўта прыгонныя сяляне адраблялі 14 дзён паншчыны ў год, а ў другой палове XVI — ужо 100 дзён уласнымі прыладамі працы, а сяляне каралеўшчын аддавалі чынш роўны 1/3 часткі сваіх даходаў. Відавочна эканамічнае становішча сялянства было выключна цяжкое, калі магнат Р. Хадкевіч у 1572 г. пісаў, што: «по всех сторонах и краях великий утиск и недостаток укоренился так, иж до неба голос, плач и крик от убогих подданых идёт», і калі ім не падаравапаць налогаў дык «з голоду паздыхаюць».

Неабходна заўважыць, што ў пазнейшыя гады да існуючай паншчыны феадалы ўвялі яшчэ так званыя «гвалты», г. зн. пільную адпрацоўку некалькіх дзён з усёй сям'ёй у перыяд інтэнсіўных палявых работ, а таксама правы ўваходаў у лес, лапанне рыбы, выкананне рамяства, пасля — выезды на шарваркі, тканне палатна ў магнацкіх мануфактурах, упрыгожванне іх сялібы, яе пільнаванне ўначы і гэтак далей .С. Шчотка («Zaburzenia chłopskie na Białostocczyznie 1861—1869 r.», Warszawa, 1953, стар. 52) успамінае, што паншчына ў XVIII і XIX стагоддзях пры адновалочнай гаспадарцы (21 га зямлі) складала 312 дзён. У залежнасці ад кан'юнктуры яе змяншалі або павялічвалі самі феадалы. У XVII стагоддзі яны патрабавалі толькі прыгоннай рабочай сілы, а ў наступным стагоддзі — ўжо чыншу. П. Гільтенбрандт у публікацыі «Сборник памятников творчества в северо-западном крае», Вильно, 1866. стр. LXV падае, што ў яго гады мясцовае насельніцтва спявала яшчэ песні наступнага зместу: «...у старыну пры старых панах цэлую нядзелю працавалі для сябе, а суботу — паншчыну; цяпер пры маладых панах — дрэнна: цэлую нядзелю адрабляеш паншчыну, а ў суботу — шарварак». Літоўска-беларускія магнаты стваралі сабе нейкія аўтанамічныя феадальныя дзяржавы. Яны ў адным перыядзе ўтваралі гарады, а іх насельніцтва звальнялі ад паншчыны, у другіх ізноў анулявалі іх (Мілейчыцы), праз што выклікалі масавыя хваляванні былых вольных гараджан.

На тэрыторыі ўсходняга Падляшша ўвогуле перамяшаліся формы феадальнай эксплуатацыі літоўска-беларускіх і польскіх магнатаў на некарысць сялян.

Да форм эканамічнай эксплуатацыі дайшоў яшчэ рэлігійны прыгнёт, як піша Я. Ярашэвіч (Obraz Litwy... Wilno, 1844, cz. III, стар. 77) «...неразважна гвалт сумленню задаваны, штораз больш раз'юшваў прыгнечаную старану...» Неабходна адзначыць, што паміж прыгоннымі беларускімі і польскімі сялянамі не было амаль ніякіх канфліктаў.

Урэшце мясцовыя чыноўнікі, якія рэкрутаваліся з найбольш варожых сялянству слаёў грамадскасці (абяднелая шляхта, купецтва), у выніку свайго самадурства выклікалі многа непаразуменняў. Многія з іх хацелі выказацца нейкай уласнай «ініцыятывай», звыш уладай.

Як відаць, прычын выклікаючых незадавальненні сялян было даволі многа. Разнароднымі былі таксама супраць іх формы пратэсту: адмова выконвання павялічанай паншчыны, уцяканне з сем'ямі ў пушчы на часовае або сталае пасяленне, адзінкавае або супольнае супраціўленне загадам феадалаў,ураднікаў, паліцыі, пісанне скаргаў, падпальванне памешчыцкіх пабудоў, урэшце забойствы феадалаў і іх прыслужнікаў.

З увагі на недастатковую даследванасць гэтага пытання, мы яшчэ не ведаем, якія формы супраціўлення былі на Падляшшы першымі. Асабліва мала захавалася вестак да XV стагоддзя. Вядома толькі, што сяляне Бельскай зямлі ўцякалі ад феадалаў углыб Бель-



 

 

# ПРАВЫ ШКОЛЬНЫХ СТАРАЖОЎ

Усё яшчэ многа недаразумленняў выклікае справа школьных старажоў. Часта гэтыя працаўнікі школ не ведаюць сваіх правоў. Сёння інфармуем зацікаўленых аб правах школьных старажоў.

Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі выступіла з пісьмом ад 31 ліпеня 1969 г. № KZ-1-1005-4/68, у якім звяртае ўвагу школьнай адміністрацыі на павелічэнне кантролю адносна правільнай рэалізацыі праўных норм, якія датычаць правоў і абавязкаў школьных старажоў і іншых працаўнікоў абслугі школ. Асаблівую ўвагу звяртаецца на тое, што:

1) Школьныя старажы з многагадовым стажам працы павінны быць залічаны адпаведна да вышэйшых ставак адносна зарплаты, якія прадбачвае ім § 3 загаду Савета Міністраў з 28.X.1965 (Dziennik Ustaw Nr 44, poz. 275). Авансуючы да вышэйшых ставак рады нарадовыя і дырэкцыі школ павінны прымяняць прынцып, што тыя старажы, якія працуюць звыш 20 год, павінны атрымаць найвышэйшую заработную плату.

2) Праца ў надлічбовых гадзінах старажоў і іншых працаўнікоў абслугі школ не павінна перавышаць 120 гадзін у год. Прыдзяленне большай колькасці надлічбовых гадзін патрабуе згоды Акруговага праўлення ЗНП.

3) Дадатковую плату за паленне ў школьных печах трэба выплочваць сістэматычна школьным старажам або іншым працаўнікам кожны месяц. Гэтыя справы рэгулююць загады Міністэрства асветы.

**(Dziennik Urzędowy Min. Ośw. Nr 3 poz. 36 z 1957 r. i pismo okólne Min. Oświaty i Szk. wyższego z 5.X.1967 r. Nr K-1-1592/57).**

4) Куратарыумы, аддзелы асветы і ГРН павінны кожны год забяспечыць у бюджэце сродкі на пакупку мундзіраў старажам за адплатай 25%. Гэтае права вынікае з рэгуляміна ў школьных старажоў (Dz. Urz. Min. Osw. nr. 13 poz. 203 z 1958 r.).

Мыццё і чышчэнне рабочага і ахоўваючага адзення належыць да работадаўцы (школы, ГРН, аддзела асветы).

5) Працаўнікі абслугі павінны быць абяспечаны рабочым і ахоўваючым адзеннем згодна з нормамі і тэрмінамі, якія прадбачвае загад Міністэрства асветы (Dz. Urz. Min. Ośw. nr. 12 poz. 151 z 1957 r.).

6) Усе школы павінны быць абяспечаны адпаведнымі матэрыяламі і сродкамі (ручнікі, мыла і інш.) патрэбнымі да ўтрымлівання асабістай гігіены працаўнікоў абслугі.

7) Качагары цэнтральнага абагравання павінны атрымліваць 0,5 літра малака ў дзень (Dz. Urz. Min. Ośw. nr. 13 poz. 203 z 1958 r.)

8) Школьным старажам і іншым працаўнікам абслугі, якія працуюць на поўных штатах, а тэрмін заканчэння працы не абазначаны ва ўмове, а таксама жонкам гэтых працаўнікоў і мужам працаўнікоў-жанчын, калі яны няздольныя да працы і астаюцца на поўным утрыманні сваіх жонак, трэба даць службовыя білеты (легітымацыі), якія даюць права да 50% зніжкі пры пакупцы білетаў на поезд. (ак)

---

скай і Блудаўскай пушчаў, што непаслухмяных білі бізунамі, замыкалі ў турмах або пазбаўлялі жыцця.

Цікавую вестку падае І. Б. Ракавецкі («Prawda Ruska»... t. I. Warszawa, 1820) аб нейкім Войціку з Бельскага павета, які, выказваючы агульнае абурэнне сялян супраць нялюдскіх адносін урадніка ў валочнага памеру, вырашыў шукаць праўды ў караля Ягайлы. З увагі на бібліяграфічную рэдкасць публікацыі прывядзем вытрымку ў арыгінале: стар. 233

„— Roku 1561 na Podlasiu i w Powiecie Bielskim miernicy królewscy rozmierzali włoście pod naczelnictwem niejakiego Skoczka: „A iż ten Skoczek (mówi Górnicki w dziejach Korony Polskiej) nie ludzce się obchodzi z ludźmi, tak iż czasem pośrodek izby sznur miernikom ciągnąć kazał, dziury poprzewierciawszy. Odiął też był niesłusznie niejakiemu Woycikowi niemało Gruntu..." zaniósł więc oto Woycik skargę do króla w owczas bawiącego w Wilnie, który odesłał go do pisarzów Litewskich. Ten zaś niecierpliwy, pokądby skarga jego rozpoznaną być mogła w dni kilka po bramie Zamku przylepił kartkę grożącą odebraniem życia królowi, jeśliby jemu i innym pokrzywdzonym ludziom zabrane przez mierników grunta nie były przywrócone. Za takowy postępek śmiercią ukarany został".

Можна сабе ўявіць крыўду Войціка і існуючую ў яго асяроддзі атмасферу. Трэба было прайсці з Бельскай зямлі ў Вільна каля 300 кіламетраў і, яму тагачаснаму забітаму мужыку, шукаць праўды ў самага караля, а калі яе не знайшоў — кінуцца на жыццё найвялікшай зямной святасці.

**У. Юзвюк**

---

<u>У пошуках шчасця</u>

# УСМЕШКА ЛЫСАЙ ГОРКІ

Яшчэ раз вяртаюся да дзядзькі Максіма са Старой Вёскі. Сустракаю яго на разоранай скібе пры збіранні бульбы. Нацягнуўшы тоўстыя старыя нагавіцы, сядаю і я побач яго, ды пачынаем гортаць халодную зямлю.

— Скажы ты, як той час хутка ляціць, — гаворыць дзядзька Максім ляніва абіваючы бульбу аб бульбу, глядзячы ўдалеч на густы лес перад намі. — Ай хутка! Нядаўна, здаецца, цэлай вёскаю садзілі лес на Лысай гары, а цяпер паглядзі: лес, як сцяна. Не агледзішся, калі ён вырас.

І далей глядзіць удалячынь, на далёкія лясы, у задуменні ўстрымаўшы руплівую працу. Ведаю, сказаў ён гэта не да мяне, а да ўсяго свету, каб усе ведалі, што час не стаіць у месцы, што аджылося ўжо Максімава жыццё, аджываецца і вашае.

Дзядзька Максім часта так гаворыць. Часам аб лесе, часцей аб людзях, якія на вачах родзяцца, жэняцца і старэюць. Разумею яго. Дзядзька Максім адчувае тое, што ўсе людзі ў яго ўзросце. У меру як апускаюць сілы і слабее рытм жыцця, рытм часу гвалтоўна прыспешваецца, а ўсё менш гэтага часу астаецца ў яго распараджэнні. І здаецца дзядзьку Максіму, што калі скажа людзям гэтую здзіўляючую, голую праўду — што час хутка ідзе наперад — і калі людзі зразумеюць гэта, здзіўляцца гэтым і занепакояцца гэтым — яму, дзядзьку Максіму, будзе значна лягчэй. Перакіне ён такім чынам на іх плечы частку свайго цярпення, цяжару сваёй старасці.

Адчувае гэта не толькі дзядзька Максім. З гэтай патрэбы ўзнікае вялікая літаратура аб праблемах жыцця.

Такі, скажам, Сартр Максімаву праўду апісвае на некалькіх тысячах старонак друку. Максім, зразумела, вялікай літаратуры ствараць не будзе. Але праўду аб жыцці часам сказаць любіць.

— Памятаю, — кажу я, — як яшчэ на Лысай гары авечак пасвілі.

— Кажаш, авечак пасвілі, — паўтарае Максім. А потым вядзе такую думку:

— Ну так, калісьці на Лысай гары авечак пасвілі. Але вось, скажы мне, што гэта такое: у сваёй вёсцы, на сваім полі кожная горка, кожны ручаёк, камень, дрэўка — усё такое свойскае, мілае, усё якраз такое, як трэба. Выедзеш на чужую вёску і аж смяяцца хочацца. Усё такое, здаецца, дзіўнае, пагоркі такія нейкія чудачныя, смешныя, хто іх і выдумаў такімі — чорт ведае што. А вяртаемся здалёк у сваю вёску, гэтыя пагорачкі, здаецца, усміхаюцца да цябе, загаварыць да іх хочацца, як да каго знаёмага.

На пытанне дзядзькі, зразумела, не адказваю, бо гэта ж і не было па-сутнасці пытанне. Кажу толькі яшчэ раз ад сябе.

— Так, гэта праўда, час ляціць вельмі хутка.

І гляджу на дзядзьку Максіма. Але дзядзька далёка ўжо ад гэтых спраў. Прыспешыў шпарка гартанне зямлі, думаючы мабыць аб нейкіх справах сваёй штодзённасці. Трэба яго даганяць.

Разумею: паміж філасофіяй Сартра і філасофіяй дзядзькі Максіма ёсць аграмадная розніца. Бо Сартр ніколі не бачыў, каб усміхалася да яго Лысая гара і ніколі не вёў з ёю інтымнай размовы. І таму філасофія яго сапраўды ўжо сумная.

**Рыгор Паўлюк**

---

**УВАГА ЧЫТАЧЫ, У ЯКІХ ЁСЦЬ СВАЯКІ ЦІ ЗНАЁМЫЯ ЗА ГРАНІЦАЙ!**

**У сувязі з тым, што маем шмат пытанняў, інфармуем зацікаўленыя асобы, што падпіску «Нівы» з заказам высылкі за граніцу прымае Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych «Ruch», Warszawa, ul. Wronia 23, nr konta PKO 1-6-100024.**

**Цана гадавой падпіскі 40 зл. 40 гр. Падпіска заяўлена да дня 10 дадзенага месяца B.K.W.Z. «Ruch» пачынае рэалізаваць з днём 1 наступнага месяца.**

---

# Месца здзекаў і смерці



**Выступае з прамоваю першы сакратар КП ПАРП у Бельску Юзэф Пяхоўскі.**

Як уся наша краіна, таксама і Бельшчына, у час нямецкай акупацыі перажыла многа гора, многа здзекаў.

Расстрэл 149 чалавек у вёсцы Райск, масавыя расстрэлы ў Піліцкім лесе, расстрэлы і здзекі ў гестапаўскай турме на Галавеску ў Бельску Падляшскім — гэта толькі некаторыя факты таго страшнага перыяду.

У Райску і ў Піліцкім лесе даўно стаяць помнікі, і гэтыя месцы ўшаноўваюцца нашай грамадскасцю.

Для ўшанавання памяці аб загінуўшых у падвалах былой турмы на Галавеску, 26 верасня быў адкрыты музей мартыралогіі. Сімвалічнага перарэзу стужкі зрабіў першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску Падляшскім Юзэф Пяхоўскі. У сваёй прамове прыпомніў ён зверствы нямецкіх акупантаў, здзекі над нявіннымі людзьмі на Галавеску, у падвалах сённяшняга інтэрната тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства. «Праз гестапаўскую катавальню на Галавеску, — гаварыў таварыш Пяхоўскі, —



**У музеі мартыралогіі.**



**Захаваліся прылады здзекаў — бізун-нагайка і кайданы.**

прайшло блізка 1000 чалавек і большасць з іх загінула. Многія, над якімі немцы здзекаваліся, не вытрымоўвалі следчых метадаў, заламліваліся і канчалі самазабойствам. Большасць аднак з годнасцю захоўвалася ў час следства і з годнасцю прымала прыгаворы смерці, якія выконваліся на месцы з пісталета ў патыліцу. Тэрор і мукі гестапаўцаў не запалохалі грамадства. Акупант не мог задушыць нянавісці да ворага і імкненняў да незалежнай краіны».

У музеі, які складаецца з калідорчыка і двух памяшканняў, ёсць здымкі расстрэляных людзей, ёсць прылады катаванняў, нямецкія аб'явы. У адной з такіх аб'яў чытаем: «25.5.1943 года на шашы Беласток — Бельск быў забіты адзін нямецкі афіцэр і адзін радавы вайсковец. З мэтай увядзення спакою ў Беластоцкай акрузе, загадваю арыштаваць 150 чалавек і аддаць пад ваенны суд». Падпісаў Камандар паліцыі і службы бяспекі на Беластоцкую акругу.

Музей будзе прыпамінаць людзям аб нямецкіх зверствах, аб людзях, якія тут загінулі.

**М. Хмялеўскі**

**Фота Цаф — Сянько**



**На адкрыццё музея мартыралогіі прыбыло шмат ЗБоВіД-аўцаў.**



**Удзельнікі ўрачыстасці.**



 

